

# Малое ПАЛЕСЬСЕ



Нумар 1(5) Люты-сакавік 2001 222010 Крупкі вул.Кутузава'7 тэл.(01796)42264 mp@crossrd.org.by Наклад 299 ас.

## БАБРОЎСКІ СПЭЦВЫПУСК

# БОБР – НАШАЕ МЯСТЭЧКА



## ГОЛАС МЕСТАЧКОЎЦА

**Рэдакцыяй "Малога Палесься" былі апытаныя жыхары Бабра, якім задаваліся тры пытаньні:**

**1. Які цяперашні стан мястэчка Бобр?**

**2. Якім бы Вы жадалі бачыць мястэчка Бобр у будучыні?**

**3. Якія шляхі пераменаў да паляпшэньня нашага жыцьця?**

**Увазе чытачоў прапануюцца найбольш цікавыя й характэрныя адказы.**



*Сьвятлана Субоціна*

**1. Зараз Бобр знаходзіцца ў крытычным становішчы, на стадыі выміраньня.** Памірае шмат людзей, а нараджаецца вельмі мала, бо ўся моладзь пакідае Бобр і зьяжджае ў гарады. Мы задаем сабе пытаньне – чаму? А адказ вельмі просты – як жа тут можна жыць? Працоўных месцаў няма. А чаму ж нельга зрабіць, каб як раней працавалі ДАК, сьпіртзавод? Калі гэта ня можа зрабіць дзяржава, былыя ці цяперашнія гаспадары, дык мо ёсьць якое-небудзь іншае выйсьце?

**2. Вядома, такім,** якім ён быў дзесяць гадоў таму.

**3. Вельмі хочацца, каб не пуставалі, а як раней,** у Бабры былі заселеныя ўсе хаты, каб у кожнай хаце гучалі дзіцячыя галасы, і каб наша мястэчка Бобр не вымірала, а адраджалася!

**СЬВЯТЛАНА СУБОЦІНА, самая прыгожая гандлярка ў Бабры**

*Працяг на с.2*

# НАВІНЫ

**Паводле** словаў Юрыя Барысава, мэра Бабра, узровень злачыннасьці па мястэчку Бобр – найвышэйшы ў раёне й складае 71%, адпаведна ў Крупках – 53% на колькасьць жыхароў.

**Жыхары** Бабра Алесь Пушкін і Канстанцін Раманюк 10 лютага 2001 году езьдзілі ў Барысаў на сустрэчу з старшынём Партыі БНФ "Адраджэньне" сп.Вінцуком Вячоркам. Абмяркоўвалася сытуацыя вакол маючых адбыцца прэзыдэнцкіх выбараў, пытаньні вылучэньня адзінага дэмакратычнага кандыдата, а таксама пытаньні назіраньня за падрыхтоўкай і ходам галасаваньня.

**Старшыня** Баброўскага сельсавету Юры Барысаў марыць пабудаваць кірмаш у Бабры на месцы, дзе калісьці стаяў Марыінскі касьцёл, які быў зафундаваны ў 1760 годзе Аленай і Ігнацыям Агінскімі.

Ужо ёсьць у наяўнасьці праект, распрацаваны крупскім раённым архітэктарам.

Вось і рэаліі нашага часу – замест духоўнасьці – гандаль. Так бы мовіць, прыярытэты рынкавага сацыялізму. Але ж і каталікоў у Бабры няшмат – ім не пад сілу адрадзіць парафію й выбудаваць касьцёл.

**Па** мястэчку Бобр 8 лютага 2001 году хадзіў сьледчы ваеннай пракуратуры старэйшы лейтэнант N, які расьследуе знойдзеныя факты крадзяжу боепрыпасаў на 391 ваеннай базе артылерыйскага ўзбраеньня

*Працяг на с.2*

БОБР

# НАВІНЫ

Працяг. Пачатак на с.1

Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

Заходзіў таксама да Алеся Пушкіна, бо побач зь ягоным домам – на завулку Паштовым'4 – у закінутым доме, дзе некалі жыў Сьцяпан Якубовіч, знойдзены схаваны ад людзкіх вачэй склад боепрыпасаў.

**Сапраўдны** рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі паводле словаў Вінцука Вячоркі – старшыні Партыі БНФ "Адраджэньне" – 25% па рэспубліцы, а ў буйных гарадох (Менску й інш.) – 14% выбарцаў.

**Вельмі** ж распаўсюджаны апошнім часам крадзеж алюмініевага паркану-сеткі па мястэчку Бобр. На жаль, міліцыя не знаходзіць вінаватых, але сьляды выводзяць ды людзі кажуць, што крадуць гэта людзі-набрыдні, якія пасяліліся на вуліцы Магілёўскай, у хаце сп.Садоўскага.

# ГОЛАС МЕСТАЧКОЎЦА

Працяг апытаньня. Пачатак на с.1

**АЛЕНА РЖЭЎЦКАЯ, выкладчыца СШ№3 г.Крупкі, патомная жыхарка Бабра**

**1. Я лічу, што зараз наш Бобр знаходзіцца ў страшэнным заняпадзе.** Уявеце сабе, што 100 гадоў таму, у XIX ст., у нашым мястэчку на 1113 жыхароў былі Марыінскі касьцёл, царква, капліца на могілках, сынагога, цагляны завод, дзьве мельніцы, лячэбніца на 12 месцаў, народная вучэльня, тры габрэйскія школы, праваслаўная школа, 22 крамы, 3 кірмашы штогод (9 траўня, 14 верасьня, 6 сьнежня). У 1907 годзе на 2340 жыхароў (445 дамоў) – 35 крамаў. А што мы маем зараз? Як кажуць, камэнтары залішнія.

**2. Перш за ўсё багатым.** Бо людзі за ўсю сваю цяжкую працу гэтага заслугоўваюць. Будуць грошы ў людзей – шмат праблемаў вырашыцца самі сабою. Дзяржаве даўно пара ўсьвядоміць, што немагчыма быць незалежнай і самастойнай, абапіраючыся на бедных і бяспраўных грамадзянаў.

**3. Я лічу, што шмат залежыць ад асобы таго, хто стаіць на чале мясцовай улады.** З прыходам Барысава Юрыя Міхайлавіча за кароткі час адбылося шмат зьменаў у лепшы бок. Я маю на ўвазе й агароджу могілак, бо гэта наш твар: як мы ставімся да памяці нашых продкаў, гэтак нашыя дзеці будуць ставіцца да нас. І асьвятленьне нашых вуліц, і елка на Новы год, і нашая звалка, і вырашэньне вялікай колькасьці іншых мясцовых пытаньняў. Чаго гэта каштуе сёньня? Пра гэта ведае Бог ды супрацоўнікі мясцовага Савету на чале зь Юрыем Міхайлавічам. Не магу не сказаць некалькі словаў пра школу. За той ня вельмі вялікі час, што ёю кіруе Шэкун Яўгенія Аляксееўна, школа стала яшчэ больш утульным і прыемным месцам. Наладжана ацяпленьне, працуюць прыбіральні. А які парадак навакол! Гэта патрабуе шмат высілкаў і самаадданасьці. Яўгенія Аляксееўна кажа, што ўсё, што зроблена – гэта праца добрага калектыву, кожнага ягонага сябра.

А я лічу, што самае галоўнае, каб на чале стаяў Гаспадар!

Можна было б зрабіць яшчэ больш, але ўсё зноў упіраецца ў грошы. А дзе іх узяць? Чаму завод музычных дэталяў, сьпіртзавод, калгас у гэткім заняпадзе? Вось яны – грошы! Таму, пакуль нашыя кіраўнікі не паставяцца сур'ёзна да эканомікі, толку ня будзе. А будзе тое, што мы маем зараз: амаль усеагульнае пьянства, рост злачыннасьці, ухіленьне бацькоў ад выкананьня бацькоўскіх абавязкаў, беднасьць і г.д.

**АЛЯКСЕЙ СІМАНОВІЧ, старэйшы опэрупаўнаважаны адзьдзелу крымінальнага вышуку Крупскага РАУС, маёр міліцыі**



Аляксей Сімановіч

**1. Беднасьць, жабрацтва жыхароў, лайдацтва, – адсюль усе гэтыя фактары й спараджаюць крымінальнасьць.** Вельмі хацелася б, каб людзі ўсьвядомілі сэнс самога жыцьця й тое духоўнае разуменьне жыцьця, якое закладзена ў чалавеку ад самой прыроды. І не падпадалі ўплыву штохвілінных зьменлівых крытэраў і жарсьцяў.

**2. Хаця б такім, якім ён быў у 1970 годзе, якім я ўжо ўсьведамляў яго:** радасныя твары ў людзей, шмат моладзі, адсутнасьць закратаваных вокнаў дзяржаўных аб'ектаў і асабістых дамоў. Чуласьць людзей... Поўная рака рыбы – гэта значыць добрая экалёгія.

**3. Шляхам эканамічных зьменаў у першую чаргу.** Ахвочым валодаць прыватнай маёмасьцю на зямлю, на сродкі вытворчасьці даць такую мажлівасьць, даць крэдыты, але й

Працяг на с.3

# ГОЛАС МЕСТАЧКОЎЦА

БОБР

*Праціяг апытаньня*

спытаць зь іх "за вынік ураджаю". А вось гэтых сёньняшніх выскачак-фэрмераў за разбазараньне дзяржаўных рэсурсаў трэба прыцягнуць да адказнасьці.

Падаткавую палітыку трэба мяняць. Часткова зьняць падаткі зь фізычных асобаў і даць неабходную колькасьць грошай людзям, каб іхнае жыцьцё было не жабрацкае, каб яны вітрыны крамаў не зьядалі вачыма.

**ЛЁНІК ГАМОЛКА, люмпэн-пралетар, жыхар Бабра**

**1. Выдатны.** "Далей Бабра няма дабра!" – ёсьць такая прымаўка.

**2. Каб платы не ламалі.** Каб вуліцы пабудаваныя былі... Больш не магу як бы ўявіць нечага... І так добра.

**3. Хачу, каб ня кралі, каб гароды агароджвалі, каб ня лазілі ў хаты...** Ды каб цэны не расьлі! Каб сільнейшая ахрана, маладзёж каб участковы пасьвіў пільней! А Лукашэнка маладзец, – бьецца за трудавы народ, за калгасьніка!

**ПАВАЛ ЯРАВЫ, навучэнец 11 клясы, 17 год**

**1. Мы знаходзімся ў такім стане як Афрыка ў 60-ыя гады,** а мо й горш яшчэ. Што будзе далей – невядома...

**2. Каб было чым і дзе заняць моладзь.** Каб яна выйшла з запою й падумала пра будучыню.

**3. Трэба такую ўладу, якая б палепшыла жыцьцё ня толькі ў нашым мястэчку, але і ў Беларусі.** Перамены я бачу ў зьмене ўлады. Чым хутчэй, тым лепей! Трэба будаваць дэмакратыю.

**КАНСТАНЦІН РАМАНЮК, тэхноляг сьпіртзаводу**

**1.Шэрасьць. Жабрацтва. Беспрацоўе.** Раней у Бабры працаваў сьпіртзавод, калгас, у якім працавала да 600 чалавек, цэх дрэваапрацоўчага камбінату, лякарня. Сёньня ад гэтага нічога не засталося. Сьпіртзавод амаль што зьнішчаны, цэх ДАКа нічога не прадукуе, лякарні няма, а ў калгасе засталося некалькі сотняў галоваў буйнарагатай скаціны, і ўвесь калгас заняты тым, каб пракарміць гэтых бедных жывёлінаў, і каб яны выжылі да вясны. Больш аніякай працы ў калгасе не вядзецца. А настаўнікі Баброўскай школы пакінулі свае клясы й адправіліся на нарыхтоўку яловых лапак. Вось жа, калі б у фэрмера было столькі галоваў скаціны, іх маглі б абслугоўваць 3-4 працаўнікі. А ў нас у калгасе столькі спэцыялістаў сельскай гаспадаркі – некалькі дзясяткаў, плюс іншыя катэгорыі працаўнікоў! А самае цікавае, ці сумнае тое, што ўсе працаўнікі чымсьці занятыя. Пішуць паперкі, складаюць пляны, справаздачы, дасылаюць іх "наверх" – нібы ўсе пры справе. А вынік нулявы.

У Бабры ёсьць таксама крамы – і дзяржаўныя, і прыватныя. Дзяржаўныя – тыя, што належаць Крупскаму РАЙПО, – вялікія, прасторныя, зь вельмі, дарэчы, добрымі прадавачкамі. І прыватныя – маленькія й цесныя. Але насельніцтва карыстаецца збольшага прыватнымі крамамі – яны лепей і хутчэй рэагуюць на попыт насельніцтва.

У цяперашні час у Бабры, дый паўсюль у Крупскім раёне, немагчыма знайсьці працу, каб пракарміць хоць бы толькі сябе, ня кажучы ўжо пра сям'ю. Па маім цьвердым перакананьні без прыватнай уласнасьці мы ня выжывем.

**2. Я б хацеў, каб усе кіраўнікі выбіраліся народам і рабілі справаздачу аб сваёй працы перад народам.** Я б хацеў, каб нашыя ктраўнікі не баяліся прыватнай уласнасьці й багатых людзей, каб прыватнае прадпрыймальніцтва не душылася, а заахвочвалася. Каб людзі мелі магчымасьць працаваць і зарабляць на вартаснае жыцьцё. Я быў у шмат якіх цывілізаваных краінах і бачыў, як жывуць людзі ў сельскай мясцовасьці. Вельмі акуратныя домікі. Вакол дому – чысьценькі, пастрыжаны травяны газон і асфальтаваныя дарожкі. Няма ніякіх хлявоў, ніякіх прыбудоваў, ніякіх сотак і хатняй гаспадаркі. Людзі працуюць належныя сем ці восем гадзінаў, а астатні час адпачываюць. Дарэчы, для адпачынку створаныя ўсе ўмовы. А ўсе неабходныя прадукты сьвежыя й якасныя – ад мясцовых фэрмераў развозяцца па хатах па вельмі нізкіх коштах. Хіба ж мы горшыя?! Хіба



*Павал Яравы*

*Працяг на с.4*

БОБР

# ГОЛАС МЕСТАЧКОЎЦА

*Заканчэньне апытаньня. Пачатак на с.1*

ж мы ня можам так жыць? Канешне ж, можам і павінны!

Старыя людзі расказваюць, што за панскім часам паміж сьпіртзаводам і цяперашняй калгаснай канторай была вельмі прыгожая дагледжаная сажалка. Празь яе быў пакладзены прыгожы масток, а навокал – альтанкі для адпачынку. У сажалцы плавалі лебедзі, вадзілася рыба. Увогуле, гэта было цудоўнае месца для адпачынку. Зараз гэтая сажалка ўся заваленая сьмецьцем, там жудасная антысанітарыя. Калісьці, яшчэ ў 80-ыя гады я працаваў на сьпіртзаводзе і вельмі хацеў, нават ужо рыхтаваўся аднавіць былую прыгажосьць у гэтым месцы. Але ў 1985 годзе пачалася барацьба зь пьянствам, і завод зачынілі, потым пачаліся яшчэ горшыя падзеі, і задумку сваю ажыцьцявіць не ўдалося.

**3. У першую чаргу, як я ўжо казаў, неабходная прыватная ўласнасьць.** Усю тую прадукцыю, якую атрымоўвае калгас "Бобр" са штатам 160 працаўнікоў, фэрмер выдасьць зь 10–15 працаўнікамі. І гэта першапачаткова, а затым будзе значны прырост прадукцыі. Пры пераходзе на прыватную ўласнасьць адпадзе патрэба ў велізэзным бюракратычным апараце. На маю думку, чынавенскі апарат можна будзе скараціць ня менш, чым у 10 разоў. Вольныя чыноўнікі пойдуць працаваць на прадпрыемствы і ў прыватны бізнэс, і будуць плаціць падаткі, а не атрымліваць задарма вялікія заробкі. Якую вялікую страту гаспадарцы краіны прыносіць толькі служба ліцэнзаваньня. Нават самыя прыбытковыя дзяржаўныя прадпрыемствы зьнішчаюцца гэтай службай. Ці яшчэ адзін прыклад. 16 студзеня па БТ у 21:30 у перадачы "Падзея" пачуў інтэрвію, якое браў ейны вядучы Ігар Філіпенка ў начальніка



*Недабудаваны дзіцячы садок. Бобр, 2001*

крымінальнай міліцыі МУС (так назваў пасаду І.Філіпенка) генэрал-маёра Лапаціна. Спадар Лапацін сказаў, што ў 2000 годзе значна вырасла злачыннасьць, а раскрывальнасьць злачынстваў зьменшылася. На пытаньні вядучага, як выправіць становішча, ці трэба павялічваць штаты МУС, ці павялічваць фінансаваньне, спадар Лапацін адказаў, што пашыраць штаты працаўнікоў МУС ужо няма куды, як і фінансаваньне (я уяўляю, як адрэагавалі на гэтыя словы працаўнікі аховы здароўя, адукацыі, культуры й амаль усіх галінаў народнай гаспадаркі), а трэба пераразьмеркаваць абавязкі. Гэта значыць трэба, каб міліцыя займалася барацьбой са злачыннасьцю. Цікава, а чым жа яна займаецца з такімі штатамі й такім фінансаваньнем зараз?

На маю думку, зрабіць краіну багатай , а народ заможным ня так ужо й цяжка. Калісьці знакаміты амэрыканец Форд сказаў, што можна хутка разарыць любую багатую краіну. Дзеля гэтага патрэбна толькі адно – спыніць выплату свайму народу заробкаў. Што ў нас і адбылося.

Хоць я й не эканаміст, але я ўпэўнены ў тым, што пакуль народ ня будзе атрымліваць заробак, краіна багатай не стане. Вось жа давайма ўявім сабе, што ўсе нашыя людзі атрымалі нармальны заробак, а таксама пэнсіі. Якія будуць вынікі, і ці будзе на гэтым мець страты дзяржава?

Па-першае, частка атрыманых грошай у выглядзе падаходнага падатку адразу ж вернецца ў бюджэт.

Па-другое, людзі пачнуць набываць тавары, якія выпускаюцца айчыннай прамысловасьцю, значыцца, усе атрыманыя грошы праз крамы вернуцца назад у банкі. Пачне працаваць прамысловасьць, і адразу ж вырастуць плацяжы ў бюджэт у выглядзе падаткаў, і ўсё гэта з прыбыткам для прадпрыемства.

Па-трэцяе, людзі пачнуць карыстацца сфэрай паслугаў, якая таксама павялічыць плацяжы ў бюджэт і сама стане хутка пашырацца.

Па-чацьвертае, астатнія грошы людзі хаваць ня будуць, а будуць захоўваць у дзяржаўных банках. Значыцца, і гэтыя грошы будуць працаваць на дзяржаву. І чым больш будзе заробак, тым багацейшай будзе дзяржава. А зараз галоўнае – дзе першапачаткова ўзяць грошы?

Далей. Неабходна прыцягнуць

сродкі багатай часткі насельніцтва ў эканоміку краіны. Гэта значыць зрабіць так, каб людзі захоўвалі вольныя грошы ў беларускіх банках, а не ў панчохах і не за мяжой. Трэба прыцягнуць замежныя інвэстыцыі. Карацей, шляхоў вырашэньня пытаньня шмат.

І яшчэ. Каб вылучыць якіхсьці людзей, у першую чаргу пэрспэктыўных, трэба бачыць іхную працу, іхную дзейнасьць. У нас жа ініцыятыву праявіць немагчыма. Ініцыятыва караецца. У нас ёсьць толькі выканаўцы волі “зьверху”. Ёсьць лепшыя, ёсьць горшыя. Прывяду такі прыклад. Я – дэпутат бабраўскага пасялковага Савету. На адной з сэсіяў зацьвярджалі расходную частку бюджэту Савету. Старшыня Савету ўносіць прапанову. У дзіцячым садку калгаса “Колас” усталяваць краты на вокны першага паверху. На пытаньне дэпутата: “А колькі гэта каштуе? А мо ня будзем?” Атрымаў адказ: “У раёне ўжо ўсё палічылі, і адмовіцца мы ня маем права”. І гэтак па ўсіх пунктах бюджэту. Вось гэтак у нас праяўляецца ініцыятыва.

**АЛЕГ КУЛІК, крымінальны аўтарытэт мястэчка Бобр**

1. **Адмоўны**, не падабаецца мне цяперашні стан нашага жыцьця.

2. **Хачу бачыць Бобр** добрым і квітнеючым мястэчкам.

3. **Я бачу шляхі паляпшэньня** мястэчка ў зьмене дзяржаўнай улады.

**ЮРЫ МІКАЙЛАВІЧ БАРЫСАЎ – старшыня цяперашняга Бабраўскага сельсавету, былы зампаліт 391 Артылерыйскай базы боепрыпасаў МА РБ, падпалкоўнік у адстаўцы,** – збаяўся даць адказы на апытаньне нашай газэты, бо яму прыгразілі звальненьнем з займанай пасады. Гэты факт мы камэнтуем як няздатнасьць кіраўніцтва Бабра на шчырае, адкрытае й галоснае супрацоўніцтва з апазыцыйнымі пануючаму рэжыму сіламі на карысьць нашага мястэчка, паляпшэньня ягонага стану, як культурніцкага, гэтак і агульнапалітычнага. Ствараецца напружваньне, Ю.М.Барысаў ня йдзе на кантакт. Што ж добрага нам прынясе супрацьстаяньне? Заўважце – супрацьстаяньне пачалося ад трусасьці й канфармізму старшыні сельсавету.


*Юры Барысаў*

БОБР

# ПАРТЫЯ НЯ КРЫЎДЗІЦЬ СВАІХ

## Прэс-рэліз Беларускай Партыі Свабоды

**28 студзеня рэйдавая група БПС і сябры ідэалягічна-прапагандовага адзьдзелу Партыі наведалі старыя беларускія мястэчкі Бобр і Крупкі. Адбыліся сустрэчы з моладзьдзю Крупскага раёну й вайскоўцамі N-скай вайсковай часьці.**

Эмісары Цэнтральнага штабу БПС паставілі новыя задачы перад сябрамі Партыі, а сваіх прыхільнікаў пазнаёмілі з галоўнымі прынцыпамі беларускага нацыянальна-патрыятычнага руху, сярод якіх:

• у барацьбе за свабодную Беларусь няма ані брата, ані свата, а ёсьць толькі таварышы па агульнай справе;

• праз нацыянальную рэвалюцыю да Нацыянальнай Беларускай Дзяржавы;

• сваю Партыю будуем са сваімі людзьмі й на сродкі свайго бізнэсу;

• Партыя ня крыўдзіць сваіх, але жорстка карае ворагаў і здраднікаў.

Вынікам сустрэчы зьявілася стварэньне яшчэ адной баявой пяцёркі, перад якой адразу ж былі пастаўленыя канкрэтныя задачы: збор інфармацыі, стварэньне індэксу злачынстваў раённых “вэртыкальшчыкаў” ды міліцыі, а таксама інтэнсіўная прапаганда ідэяў БПС.

*Паэт Славамір Адамовіч*


**Прапагандовы адзьдзел**

БОБР

# ГІСТАРЫЧНЫ НАРЫС МЯСТЭЧКА БОБР

Яніна Дэмух

Мястэчка Бобр узьнікла дзякуючы вялікай гандлёвай магістралі, што пралягала з захаду на ўсход, з волі вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста праз намаганьні вядомага дзяржаўнага дзеяча Ераніма Аляксандра Хадкевіча. Адбылося гэта ў 1559 г.: "Чиним знаменито сим нашим листом... з ласки нашое господарское на просьбу пана... Ходкевича... на реце Бобре, в селе Забобровью, во властном кгрунте его милости место садити и в нем корчмы и торг мети ему даем", бо, маўляў, "тое де место и торг там не будеть на жадной шкоде и переказе местом и корчмам нашим, бо одаль от всих мест наших». Так і пачалася поўная слаўных і драматычных падзеяў гісторыя Бабра.

Але ў дадзеным прывілеі ясна й выразна згадваецца сяло Забаброўе, ці проста сяло Бобр, якое існавала тут задоўга напярэдадні. Сяло тое ўпершыню згадваецца ў дакумэнтах ажно пад 1516 г., калі Іван Васілевіч Красны з князёў Друцкіх завяшчае яго разам зь сёламі Сакалавічы й Нехудава сваёй жонцы. А ўжо яна, напэўна, прадала іх ці завяшчала некаму іншаму. Такім чынам, 1516 г. лічыцца часам першай згадкі Бабра ў гістарычных дакумэнтах.

## НАЗВА

Назва мястэчка Бобр паходзіць ад аднайменнай ракі. Назва ж ракі паходзіць, паводле навуковай літаратуры, ад г.зв. "бабровых гоняў". Але падаецца сумнеўным, што сярод скрозь балцкіх гідронімаў (Мясрэда, Можа, Доўтар, Эса, Югна) адзіны Бобр выпадае й мае ў сваёй аснове славянскія карані. Але, відаць, яшчэ здаўна нашыя продкі-беларусы атаясамлялі балцкае "Бобр" зь беларускім "Бабёр". Сталага веку местачкоўцы й цяпер называюць мястэчка "Бабёр", а ў крыніцах XVI ст. таксама не ўжываецца форма "Бобрскі", але "Баброўскі". Такім чынам, пытаньне этымалёгіі назвы Бобр яшчэ не закрытае.

Вернемся да пачатку гісторыі Бабра й асабліва пільна засяродзім на гэтым сваю ўвагу, бо менавіта ў пачатку й можна знайсьці тлумачэньні перапэтыяў далейшага лёсу нашага мястэчка.

## НАСЕЛЬНІКІ

Насялялі мястэчка, паводле згаданага ўжо прывілею, вольныя людзі, "а не отчие наши господарские, ани тож князские и панские". Вось іхныя імёны: Шчасны Лях, Іван Лукамлянін, Сьцяпан Гудзень, Ходар Гічула, Кот Яскавіч, Бадак Касьціініч ды іншыя. Сярод сьпісу ў сотню прозьвішчаў няма аніводнага, якое б сустракалася на сёньняшні дзень. Хіба толькі, можна меркаваць, Шчасны Лях даў пачатак роду Ляшковых, прозьвішча якіх вельмі распаўсюджанае сярод сучасных местачкоўцаў. Робім высснову, што насельніцтва было прышлым, плынным, якім застаецца й на сёньняшні дзень. Гэтая асаблівасьць паўплывала на фармаваньне мэнтальнасьці жыхароў, у прыватнасьці такіх рысаў, як прадпрыймальніцтва, непакорлівасьць, вальналюбства, задзірлівасьць, ганарлівасьць. Гэтаму спрыяў таксама й той фактар, што ў Бабры ня склалася родавай дынастыі ўладальнікаў, пераемнасьці гаспадароў, што выхоўвала ў местачкоўцах недысцыплінаванасьць, беспакаранасьць.



*Капліčка на праваслаўных могілках, дзе ў вайну 1941-44 г.г. адбываліся набажэнствы па сьвятах. Вакол яе – пахаваньні сьвятароў. Згарэла пры адступленьні немцаў у 1944 г.*

## ЯН ЕРАНІМ ХАДКЕВІЧ

Пасьля сьмерці Ераніма Хадкевіча ў 1561 г. Баброўскі маёнтак перайшоў у спадчыну да ягонага адзінага сына Яна Ераніма – выдатнага военачальніка часоў Лівонскай вайны. Ён пастаўляў са сваіх маёнткаў 360 конных вояроў – нямала нязнаных герояў стала на абарону Айчыны.

У 1573 г. Ян Еранім Хадкевіч аддаў у заклад адной з шасьці сваіх сясьцёр, – Крысьціне, і ейнаму мужу Станіславу Пацу – маёнтак Бобр. Зь інвэнтара тае перадачы можна даведацца, што мястэчка Бобр мела 71 дом, млын, гасьцінны дом.

## ЗАКЛАДНОЕ ПРАВА

Не пашчасьціла Бабру з пастаянным гаспадарлівым уладальнікам. Аляксандар, сын Яна Ераніма Хадкевіча,

пасьля сьмерці Паца перадае закладное права Ляву Сапегу, той – свайму слузе Станіславу Галінскаму, той жа – шляхцічу Крыштафу Камару. І ўрэшце, абцяжараны даўгамі маёнтак Аляксандар у 1614 г. канчаткова прадае Камару. Ізноў складзены новы інвэнтар: за 41 год насельніцтва Бабра значна вырасла, у ім знаходзілася 180 аселых мяшчанскіх двароў (пляцаў) на абодвух берагох ракі. Мост і млын з двума коламі здаваліся ў арэнду. Пад 1614 г. упершыню згадваецца Баброўская царква й сьвятар Фёдар, якому належылі пляц і валока, вольная ад усіх падаткаў. Сярод сьпісу мяшчанаў згадваюцца й былыя прозьвішчы, але шмат і новых: Арцём і Амяльян Друцкія, Ахрэм і Сьцяпан Ліцьвіны, Якаў і Амяльян Маскалі.

### ЗЬБІЦЬЦЁ ГАБРЭЯ

У 1624 г. Бобр зноўку трапляе ў гістарычныя аналы. Цікава адзначыць, што нагода вельмі нагадвае сучасную – баброўскія мяшчане зьбілі й абрабавалі праежджага габрэя-гандляра з Магілева Арона Якубовіча. У 1636 г. у Бабры дык і ўвогуле быў забіты падданы суседняга сяла Шырневічы. Падаецца, што крымінальная сытуацыя не на многа з тае пары зьмянілася.

### НЕВЯДОМАЯ ВАЙНА

У 1636 г. Крыштаф Камар памёр. Сьлед Бабра губляецца на некалькі дзесяцігодзьдзяў. Напэўна, гэта зьвязана зь Невядомай вайной (1654 – 1667), якую разьвязала Масковія супраць Рэчы Паспалітай. Гэтая вайна з 213 дамоў, што былі ў Бабры, пакінула 95, звыш паловы насельніцтва загінула ці разьбеглася.



*Царква мястэчка Бобр да вайны (1938г.). Рашэньнем тагачаснага старшыні сельсавету Крывашэева ды старшыні калгасу Цодзіка разабраная й прададзеная на дровы ва Ўкраіну*

### УЛАДАНЬНЕ САПЕГАЎ І АГІНСКІХ

Пасьля Невядомай вайны мястэчка Бобр перайшло ва ўладаньне Сапегаў, родавае гняздо якіх знаходзілася ў Чарэі. У гэты час у Бабры дзейнічала уніяцкая царква, знаходзіўся двор Сапегаў. Бэнэдыкт Сапега заклаў у 1700 г. Бобр Яну Лендарфу. Удава апошняга Крысьціна Абрамовіч у 1773 г. паўторна паблалася шлюбам з князем Марцыянам Міхалам Агінскім, і праз гэты шлюб Бобр перайшоў да князёў Агінскіх. У 1750 г. ён належыць старэйшаму сыну Ігнацыю. Ягонай жонкай была траюрадная сястра Алена, дачка Казіміра Дамініка Агінскага, – асоба вельмі адукаваная. Пры Алене ды Ігнацыі Бобр перажыў пэўны ўздым. Мястэчка тады мела каля 100 двароў і было буйнейшым з усіх паселішчаў Крупсакага раёну. Агінскія заснавалі касьцёл найсьвяцейшай панны Марыі, які пачаў дзейнічаць у 1760 г. Бобр стаўся цэнтрам князёў Агінскіх. 01.01.1762 г. намаганьнямі Ігнацыя Бобр атрымаў магдэбурскае права й герб з выяваю Барыса й Глеба. Бобр быў адзіным мястэчкам у Крупскім раёне, які меў магдэбурскае права.

*Від на мястэчка Бобр да вайны: на пярэднім пляне – панская альтанка-купальня Барталамея, далей за ракой – вуліца Падольская, касьцёл, царква*



У 1763 г. удава Алена перапрадала маёнтак пляменьніку Міхалу Казіміру Агінскаму, будучаму гетману Вялікага Княства Літоўскага, кампазытару й заснавальніку славутага тэатру ў Слоніме. Потым Бобр перайшоў да Ксаверыя Агінскага. Нейкі час маёнтак, абцяжараны даўгамі гетмана Міхала Казіміра Агінскага, знаходзіўся ў арэндзе Францішка Друцкага-Любецкага; на той час меў 228 дамоў.

### ІНКАРПАРАЦЫЯ

У склад Расейскай імпэрыі Бобр трапіў у выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г. Новая ўлада прынесла новыя парадкі. Была скасаваная царкоўная вунія, праведзеная прысяга на вернасьць расейскай імпэратрыцы й г.д. Непакорлівая шляхта, што памятала дзяржаўную незалежнасьць, вымушаная была ці цалаваць ручку Кацярыне II, ці эміграваць, ці падымацца на паўстаньні супраць акупацыйнага рэжыму. Міхал Клеафас Агінскі, аўтар славутага палянэзу "Разьвітаньне з

Заканчэньне на с.с.8-9

БОБР

# ГІСТАРЫЧНЫ НАРЫС МЯСТЭЧКА БОБР

*Заканчэньне.*
*Пачатак на с.6*

Радзімай", стаўся уладальнікам Бабра ў 1803 г. У 1811 г.ён стварыў праект утварэньня Вялікага княства Літоўскага у складзе Расейскай імпэрыі. Праект быў адмоўлены царом. У 1823 г. Агінскі зь сям'ёй выехаў у Італію.

**1812 ГОД**

У Айчынную вайну 1812 г. у Бабры стаяў францускі гарнізон. Пры адступленьні ноч з 12 на 13 лістапада Напалеон правёў у Бабры. Бобр быў "сожжен... со всеми улицами. Церковью Грекоуниатскою, с мельницами, плотинами и многими в господарском дворе строениями" – пісаў у 1813 г. копыскі павятовы прадвадзіцель дваранства (маршалак).

**ЦЭРКВЫ Й ЛАЎКІ**

Далей мястэчка Бобр на нейкі час зноў губляецца. У 1842 г. Бобр – ва ўладаньні графа Іосіфа Міхала Тышкевіча. У гэтым жа годзе была пабудаваная новая Мікалаеўская царква замест старой вуніяцкай, абрабаванай і спаленай у час вайны 1812 г. У 1862 г. быў пабудаваны касьцёл замест драўлянага, але пасьля паўстаньня 1863 г. быў зачынены ўладамі. У 1862 г. была ўтвораная народная вучэльня.

У 1877 г. мястэчка набыў сапраўдны статны саветнік (райца) Аляксандар Фёдаравіч Барталамей, памяць аб гаспадарлівасьці якога жыве й па-сёньня. У 1885 г. заснаванае паштовае адзьдзяленьне, затым – плятформа "Бобр", у 1881 г. – валаснoе праўленьне, а таксама камора судовага сьледчага.



*Баброўскі ФАП*

У канцы XIX ст. – пачатку XX ст. у Бабры былі 2 вадзяныя млыны, скураны завод, крупадзёрка, бровар (належылі Барталамею), млын, лячэбніца, аптэка купца Лейбы, царкоўна-прыхадзкая школка, 3 малітоўныя габрэйскія дамы, пастаялы двор, карчма, 35 гандлёвых лавак, хлебазапасны магазін, 2 вінныя лаўкі, прадпрыемства па вытворчасьці піва й садавінавых напояў Брэйгера, цагляны завод братоў Лазінскіх (1904 г. – 62 работнікі), цагляны завод братоў Пружыніных (53 работнікі). На зімовага й летняга Міколу (6 сьнежня й 19 траўня) праводзіліся кірмашы. У 1863 г. было 1113 насельнікаў, у 1880 – 2239, у 1910 – 2340.

**У ЧАСЫ БАЛЬШАВІЗМУ**

Пасьля рэвалюйцыйных падзеяў у Расейскай імпэрыі пачаўся новы пэрыяд. Афіцыйную вэрсію гісторыі Бабра савецкага часу можна прачытаць у афіцыйных крыніцах. Але многае змоўчана, ня вывучана – антысавецкі рух, рэпрэсіі, калябарацыянізм. Гісторыя Бабра савецкага пэрыяду яшчэ чакае свайго дасьледчыка.

Спынімся ў агульных рысах на гэтым пэрыядзе. Не найлепшыя часы надыйшлі для Бабра пасьля бальшавіцкага перавароту ў кастрычніку 1917 г. Барталамей, напярэдадні прадаўшы лес, пасьпеў зьехаць з брычкаю золата (па расповедах местачкоўцаў) ў Парыж. На месцы ягонага маёнтку ў 20-ыя гг. пасьля адыходу нямецкай акупацыі была ўтвораная камуна. Камунары-камбедаўцы забралі ўвесь рыштунак, гаспадарчыя пабудовы, бровар, маслабойку. Жылыя памяшканьні адыйшлі да школы. У 1928 г. быў створаны калгас "Красная ніва".

Касьцёл быў пераўтвораны ў клюб, у якім у 30-ыя гг. пускалі кіно. Баброўскую царкву ў 1938 г. рашэньнем старшыні тагачаснага сельсавету таварыша Крывашэева й старшыні калгасу таварыша Цодзіка было загадана разабраць і прадаць на дровы ва Ўкраіну. Касьцёл жа пры наступленьні немцаў у 1941 г. згарэў. Немцы разабралі ягоныя муры й выбрукавалі дарогу ад маста да шашы. На былым месцы, дзе раней стаяў касьцёл, пасьля вайны збудавалі памяшканьне НКВД (цяпер дзіцячая бібліятэка), а на месцы пахаваньняў сьвятароў – прыбіральню (якая, дарэчы, існуе й зараз).

У 20-ыя гг. у нашай

мясцовасьці існаваў супраціў савецкай уладзе. Гэта былі ўзброеныя групы Моніча й Шпількі, аб якіх нашым сучасьнікам амаль нічога невядома. Зразумела, езьдзіў па мястэчку ў 30 гг. і г.зв. "чорны воран". Сярод мястэчкоўцаў былі як ахвяры, так і "стукачы". Дзейнічаў негалосны сталінскі закон "на 10 жыхароў – адзінданасіцель". Зь ліку мноства рэпрэсаваных ахвяраў рэабілітавана толькі каля дваццаці чалавек.

## ВАЙНА

**А**пошняя вайна не ўкладваецца ў клясычныя рамкі Айчыннай вайны, яна, па-сутнасьці, зьяўлялася й грамадзянскай вайной, у якой існавалі дзьве палітычныя сілы: камуністычная й нацыянальная. Мястэчкоўцы апынуліся ў гэтай вайне па розных бакох, сярод іх былі й калябаранты. Пасьля выгнаньня фашыстаў нямецкая акупацыя зьмянілася савецка-расейскай. Цалкам за гады вайны загінула каля паловы насельнікаў Бабра – больш за тысячу. Ёсьць і памяць пра Галакост – магіла габрэяў каля мястэчка Бобр.

## ШТО МАЕМ?

**З**а савецкія гады некалі прыватнаўласьніцкая гаспадарка была пераўтвораная ў сацыялістычную. У 30-ыя гг. у Бабры дзейнічала сьлесарская майстэрня "Ударнік", кавальская арцель "Мэталіст". У 1944 г. працаваў лесазавод.

На сёньня ў Бабры існуюць лясьніцтва, калгас "Бобр", жывёлагадоўчая фэрма, майстэрні, лесазавод, 4 крамы (зь іх 2 – прыватныя), бар, дрэваапрацоўчы камбінат (зачынены ў 1990 г.), сьпіртзавод (зачынены таксама).

У пасьляваенныя гады ў Бабры існаваў дзіцячы дом, які згарэў у 80-ыя гг. Працуе сярэдняя школа, дзіцячы сад, летнік упраўленьня беларускай чыгункі, дзьве бібліятэкі, дом культуры, адзьдзяленьне сувязі, КБА, мэдпункт, аптэка. У 1994 г. была адбудаваная новая мураваная Мікалаеўская царква, у 2000 г. адчынілася пратэстанцкая царква.

Гэта ўсё – скупая статыстыка. А што за ёй? Хочацца парадаваць. Мястэчкоўцы за гады савецкай улады: самаахвярна згарэлі на працы. Але так і не змаглі ані пабудаваць сабе катэджу, ані купіць аўтамабіля, ані зьезьдзіць у Парыж. Не ўдалося ім утрымаць у мястэчку й сваіх дзяцей, якія разьляцеліся па сьвеце, шукаючы лепшай долі й не жадаючы дабраахвотна браць на сябе ярмо сваіх бацькоў. (З трох тысячаў жыхароў у 1969 г. сёньня ў Бабры налічваецца толькі крыху больш за тысячу). А СССР у гэты час пускаў спадарожнікі, будаваў арманды танкаў, дапамагаў Эфіопіі, Кубе, Аўганістану, Манголіі й безьлічы іншым марыянэткавым рэжымам. Савецкая прапаганда "трубіла" пра гэтыя "дасягненьні", і звычайныя людзі, якія ня мелі каляровыга тэлевізару, гарачай вады, каналізацыі, прыроднага газу (якога ў Бабры няма й дагэтуль) і хадзілі па цёмных неасфальтаваных вуліцах, шчыра ганарыліся тымі ўяўнымі "дасягненьнямі". Старыя людзі Бабра настальгуюць па брэжнеўскім "застоі", разьвітым сацыялізьме, вераць у калгасы, вераць беларускай тэлевізіі. Аднак аніводнага прыгожага прыватнага 2-павярховага катэджу ў Бабры за 73 гады савецкай улады так і не зьявілася. Спытаеце, чаму? Мо, усе гультаі ды пьяніцы? Не, хутчэй, падманутыя ды ашуканыя. Старыя прадпрыемствы зачыненыя, стаяць – непрыватызаваныя. Ого, каб жа людзі не пабагацелі! А моладзь плаціць падманутаму пакаленьню бацькоў непавагай, нігілізмам, пьянствам, дэградацыяй да жабрацтвам душы.


*Закінутая недабудаваная паліклініка ў Бабры. Стан на 2001 г.*

## НОВАЯ ГЕНЭРАЦЫЯ

**Д**ы ўсё ж дэмакратызацыя ды беларусізацыя ў 1991–1994 г.г. дала свой плён. Зьявілася новая генэрацыя моладзі. Вось жа нехта малады, каму няма і дваццаці, павесіў 1 кастрычніка 2000 г. на коміне баброўскага бровару бел-чырвона-белы сьцяг! Заўтрашні дзень належыць нам, маладым. Тым, хто любіць сваё мястэчка, ганарыцца ягонай гісторыяй ды зьбіраецца тут жыць і працаваць. Нас мала, але мы ёсьць.


*Бабpоўскі сьпіртзавод*

БОБР

# БОБР – КУЛЬТУРНАЯ СТАЛІЦА КРУПШЧЫНЫ

## Кроніка апошніх месяцаў

**8 лютага адбылася духоўнага размова** а.Віктара Белацаркоўскага – настаяцеля Баброўскай царквы з прыежджымі інтэлігентамі: Зьміцерам Сідаровічам, пісьменьнікам, і Уладзімерам Марозавым зь Менску.

**9-10 лютага ў Алеся Пушкіна на вул.Горнай'4 гасьціў пісьменьнік і музыка** Зьміцер Сідаровіч (піша дэтэктывы й сачыняе песьні – рок-гурт "Камэлот").

**10 лютага ў ДК мястэчка Бобр адбыўся канцэрт** артыстаў ДК Крупкі-2.

**9-10 лютага ў Алеся Пушкіна адбылася сустрэча з рэжысэрам** Беларускага акадэмічнага тэатру імя Я.Коласа Антонам Грышкевічам. Абмяркоўвалася праца над пастаноўкай на коласаўскай сцэне ў Віцебску спэктаклю Габрыеля Гарсія Маркеса "Палкоўніку ніхто не піша", дзе Пушкін будзе рабіць сцэнаграфію, касьцюмы, паліграфію да спэктаклю. Здача спэктаклю плянуецца на чэрвень 2001 году, прэм'ера – увосень.

**У студзені 2001 года Алесем Пушкіным быў распрацаваны праект** афармленьня інтэр'еру галоўнага й двух бакавых ахвярнікаў Талачынскага касьцёлу Сьв.Антонія.

Ідзе праца па ўзгадненьню праекту з ксяндзом-пробашчам касьцёлу а.Кшыштыфам Мікалайчакам і біскупам Віцебскім Яго Эксцэленцыяй Уладзіславам Блінам. У касьцёле мяркуецца зрабіць вітражы, абразы: "Сьвяты Антоній – сьветлы казнадзей" і "Цуды Сьвятога Антонія", а таксама мясцовыя разьбяры выканаюць вялікаю выяву Укрыжаванага Пана Езуса.

**7 лютага ў Менску Алесь Пушкін сустрэўся з ксяндзом Ігарам Лашуком, –** манахам-сілезіянінам і паказаў яму два варыянты абраза "Lactasti sacro ubere" ("Маці Божая Карміліца"), які плянуецца аднавіць у касьцёле Сьв.Мацьвея, што ў Раўбічах пад Менскам. Ксёндз Ігар Лашук зьяўляецца пробашчам гэтага касьцёлу, у якім зараз месьціцца музэй, але ён хоча аднавіць зьніклы слынны абраз пісаны ў XVIII ст. на меднай дошцы памерам 25X18 см і вярнуць касьцёл у Раўбічах вернікам.



*Рэжысэр Беларускага Акадэмічнага Тэатру імя Я.Коласа (Віцебск) Антон Грышкевіч – госьць Бабра*

**У лютым 2001 году Алесем Пушкіным быў напісаны партрэт** пісьменьніка й кампазытара Зьм.Сідаровіча.

**Увесь студзень і люты 2001 году адбываліся перамовы Алеся Пушкіна з чыноўнікамі** адзьдзелу Барысаўскага гарвыканкаму аб арганізацыі выставы твораў баброўскага мастака ў Барысаве. Але пакуль безвынікова.

**У траўні бягучага году адбудзецца Міжнародны мастацкі фэст "INTERACJE' 2001"** у мястэчку Пётрыкаў Трыбунальскі (Польшча). На гэты фэст запрошаны й баброўскі мастак Алесь Пушкін. Ён там пля-



*"Беларусь, Беларусь дарагая – за цябе, за цябе мы ідзем!"*

БОБР


За родны Бобр!

нуе паказаць пэрфоманс "Нямі-га'99" аб трагедыі на станцыі мэтро "Няміга" 30 траўня 1999 году, калі ў цісканіне загінулі 53 чалавекі, прычым 40 зь іх маладыя дзяўчаты.

У студзені гэтага году на свой канцэрт у адну з крупскіх школаў прыяжджаў вядомы ва ўсёй краіне беларускі бард з Гомлі Андрэй Мельнікаў, які прасьпяваў некалькіх новых песень. На наступны дзень, 13-14 студзеня, ён гасьціў у мястэчку Бобр у Алеся Пушкіна. Разам езьдзілі на возера Сялява, дзе лавілі рыбу, разводзілі вогнішча ды пілі гарэлку зь вялікай баброўскай зялёнай бутэлькі. Было вельмі вясёла.

5 лютага ў Бобр да Алеся Пушкіна прыяжджала Натальля Крывец, карэспандэнтка газэты "Камсамольская праўда". Яна наведала баброўскую царкву, агледзела фрэскі й карціны баброўскага мастака.

Натальля Крывец – культурны аглядальнік газэты, брала інтэрвію ў шмат якіх знаных людзей, напрыклад, у пісьменьніцы Сьвятланы Алексіевіч, вялікай актрысы Купалаўскага тэатру Стэфаніі Станюты, саліста "Ляпіса Трубяцкога" Сяргея Міхалка, лідэра "Песьняроў" Уладзімера Мулявіна ды інш.

У мастака Алеся Пушкіна адбывалася падрыхтоўка да рэспубліканскага фэсту рыцарскіх клюбаў Беларусі, Расеі, Летувы, Польшчы, Украіны – "Белы Замак'2001". Падчас фэсту ён выступаў у складзе "Беларускага рыцарскага клюбу", якім кіруе Арына Вячорка. На гэтым мерапрыемстве адбылася прэзэнтацыя кампакт-дыску "Лягенды Вялікага Княства".

17 лютага ў Бобр да Алеся Пушкіна прыяжджалі чатырнаццаць скаўтаў Крупскай харугвы "Малое Палесьсе". Прывёз іх школьны настаўнік Андрэй Аляхновіч – слынны кіраўнік скаўцкага руху на Крупшчыне. Скаўты наведалі баброўскую царкву Сьв.Міколы, дзе агледзелі фрэскі й абразы. Потым у цёплай і зычлівай абстаноўцы пілі духмяную гарбату й дзяліліся сваімі жыцьцёвымі марамі й плянамі.


Муза Баброўскіх прастораў

Сёлета 17 лютага па дарозе з Навалукамля ў Бобр да мастака Алеся Пушкіна заехаў вядомы архітэктар Аляксей Яроменка, што жыве ў Менску й працуе ў галіне пабудовы й рэстаўрацыі сакральных забудоваў. Ён зьбірае й апрацоўвае матар'ялы пра касьцёлы, цэрквы й сынагогі ўсяе Беларусі, рыхтуючыся выдаць кніжку пра гэта. Дзеля гэтай мэты Аляксей Яроменка ўжо наведаў Прошыку, Абчугу, Лукамаль.

Тым часам у Бабры ён агледзеў царкву, даў некаторыя парады па экстэр'еру будынка й параіў усталяваць памятны знак-крыж на тым месцы, дзе калісьці знаходзіўся касьцёл Сьв.Панны Марыі, а цяпер зьбіраюцца будаваць кірмаш. Яшчэ ён распавёў, што на каталіцкіх могілках Бабра, што ля старой шашы Масква-Берасьце, некалі знаходзілася каталіцкая капліца, ад якой цяпер захаваўся адно падмурак.

І сапраўды, стары Пушкін узгадвае, што падчас будаўніцтва шашы перад апошняй вайной была зьнішчаная частка могілак. Расканваяваныя зэкі-крымінальнікі дашчэнту разбурылі склеп з пахаваньнямі ці то ксяндзоў, ці то нейкай шляхты, вынесьлі цынкавыя труны, адчынілі іх (мусіць, шукалі скарбаў). Сам стары Пушкін, як сьцьвярджае, бачыў парэшткі й кавалкі старажытнай адзежы ды ўбораў тых пахаваньняў.

Шкада, што тады, у тыя 30-я гады перад вайной у нас у Бабры не было яшчэ людзей, што цікавіліся сваёй гісторыяй, краязнаўствам, і нам засталася не вядомай гэтая капліца-склеп на каталіцкіх (ці як яшчэ іх называюць – польскіх) могілках.

БОБР

# ПЭРФОМАНС НА СЯЛЯВЕ



# АНЭКДОТЫ




Дэмакратыя – гэта калі народ адкрыта выказвае незадавальненьне сваім уласным урадам. А дыктатура – гэта калі народ таксама адкрыта выказвае незадавальненьне. Толькі чужым урадам.

Гутараць амэрыканец, ангелец і беларус – дзеляцца сваімі дасягненьнямі й набыткамі.

Амэрыканец:

– Я маю дзьве фэрмы й вілу.

Ангелец:

– Я маю дзьве вілы й адну фэрму.

Беларус:

– А я маю адныя вілы на дзьве фэрмы.

Міжнародны сымпозыюм па абароне жывёлаў. У парадку дня: "Гуманныя спосабы забою сьвіньняў".

Францускі прадстаўнік:

– У нас сьвіньняў электрычным токам забіваюць – вельмі хутка й надзейна.

Ангелец:

– Мы спачатку ўсыпляем жывёлінаў, а затым ужо закалваем. Практычна безбалесна.

Беларус:

– А ў нас сьвіньняў, напэўна, узрываюць – толькі галовы ды капыты на прылаўках застаюцца.

Ў калгас прыслалі восем параў валёнак. Склікалі праўленьне для дзеляжу. Старшыня пытае:

– Пара мне, яшчэ жонцы, сястры, цешчы, астатняе вам. А цяпер прагаласуем. Хто супраць Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі?

Малое ПАЛЕСЬСЕ

РЭДАКЦЫЯ
тэл. (01796) 42264
222010, Крупкі, Кутузава'7
e-mail:mp@crossrd.org.by
Адказны рэдактар:
Алесь Пушкін
Шыхтоўля: Андрусь Гмыза
НАКЛАД 299 асобнікаў



Газэта "Малое ПАЛЕСЬСЕ" выказвае падзяку Барысаўскаму цэнтру грамадзкіх ініцыятываў "Скрыжаваньне" за тэхнічную падтрымку.